# 26 ЧЭРВЕНЯ 1938 ГОДА—ДЗЕНЬ ВЫБАРАЎ
# У ВЯРХОЎНЫ СОВЕТ БССР

## ПАСТАНОВА ПРЭЗІДЫУМА ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТА БССР

На падставе пастановы Надзвычайнага XII Усебеларускага З'езда Советаў і арт. 63 „Палажэння аб выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР" аб устанаўленні дня выбараў у Вярхоўны Совет Беларускай ССР не пазней, чым за два месяцы да тэрміну выбараў і ў нерабочы дзень, Прэзідыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР пастанаўляе:

1. Назначыць выбары ў Вярхоўны Совет Беларускай ССР на 26 чэрвеня 1938 года.

2. Аб'явіць пачатак выбарчай кампаніі па выбарах у Вярхоўны Совет Беларускай ССР з 26 красавіка 1938 года.

3. У сувязі з назначэннем выбараў у Вярхоўны Совет Беларускай ССР 26 чэрвеня 1938 г.—перанесці выходны дзень з 24 чэрвеня на 26 чэрвеня 1938 года.

*Вык. аб. старшыні Цэнтральнага*
*Выканаўчага Камітэта БССР* ***Н. НАТАЛЕВІЧ***

*Вык. аб. сакратара Цэнтральнага*
*Выканаўчага Камітэта БССР* ***А. ЕРМАК***

21 красавіка 1938 г.
г. Менск.

---

## ДЭПУТАТЫ НАРОДА

***С. Маршак***

Хто ў нас абраны
У Совет дэпутатам?
Хто за сабою
Народ павядзе?
— Наш дэпутат—
З Беларусі араты.
Наш—
На Урале
Жалеза куе.

Наша—
Садоў і палёў гераіня.
Наш—
Пагранічнік,
Адважны герой.
Наш дэпутат—
На палярнай ільдзіне
Смела змагаецца
З лютай пургой.

Наш дэпутат—
Пасівелы вучоны,
Вучням сваім
Адкрываючы свет.
Маршал Саюза
Таварыш Будзённы—
Наш дэпутат
У Вярхоўны Совет.

Наш дэпутат—
На барту самалёта,
Наш—
На падводным
Стальным караблі.
Наш дэпутат—
Дзень і ноч за работай
Ля каляса рулявога—
У Крамлі.



# Як мы шпіёна злавілі

Апавяданне В. ЗМІТРЭНКІ

Малюнкі А. ВОЛКАВА

Я і мае таварышы: Юрка, Сымон, Грышка Мацвееў, Петрык Агапін пайшлі ў лес па грыбы. Сказаць праўду, не так па грыбы, як пагуляць у зялёным лесе, паляжаць на квяцістым лужку, задраўшы галаву ў блакітнае неба.

Дзень быў сонечны, вясёлы. Песні птушак звінелі навокал, прыемна пахла смалой, зялёны мох цэлымі купінамі кучаравіўся пад нагамі. На грыбы мы мала зварачалі ўвагі, бо за дзень трэба было яшчэ шмат абхадзіць, усюды пабываць. Пастукваючы амаль пустымі кошыкамі, мы насвіствалі вясёлыя песні, або, задраўшы галаву, сачылі за хуткім лётам птушак. Разам з тонкімі пахучымі хваінамі нас абступалі беластвольныя бярозкі, маладыя алешыны, каранастыя дубы з вузлаватым галлём.

Чым далей мы ішлі, тым часцей сустракаліся паляны. Мясцовасць тут была нізінная, пакрытая густою травою, кветкамі,— гэта былі сенажаці нашага калгаса.

Сёння першы раз у гэтым годзе на палянах касілі калгаснікі. Падышоўшы бліжэй да іх, мы пачулі бадзёрую, гучную песню. Ніхто так прыгожа, хвалююча не спявае, як касцы летняю раніцай! Нейкім магутным шырокім патокам разлівалася песня навокал, ляцела далёка, зліваючыся з галасамі птушыных спеваў. Касцы ішлі паважна, адзін за адным; вострыя косы іх, тонка свішчучы, клалі роўнымі радкамі сакавітую траву.

Наперадзе, шырока расставіўшы ногі, махаў касою старшыня калгаса дзядзька Змітро. Высокая постаць яго ў белай вышыванай кашулі вылучалася яшчэ здалёк. За ім у сіняй майцы ішоў камсамолец Пятро Ляўшун. За Пятром касіў дзед Даніла—лепшы касец нашага калгаса.

Мы стаялі і як зачараваныя глядзелі на гэты прыгожы малюнак. Кожнаму з нас хацелася папрасіць касу і вось так, як яны, з песняй прайсціся хоць раз з канца ў канец па лузе.

Песня скончылася. Калгаснікі пазванілі мянташкамі па бліскучых косах і пайшлі далей, а мы рушылі ў маладыя зараслі бярэзніка. Зараслі былі густыя, высокія, але хутка яны скончыліся, і перад намі адкрылася наступная палянка, невялічкая, заросшая рэдкімі кустамі.

Калі мы былі амаль на сярэдзіне прыгожай паляны, з лесу верхам на кані выехаў

нейкі чалавек. Каля нас ён спыніўся і, выцершы рукою спацелы лоб, запытаў:

— Скажыце, хлопчыкі, ці далёка мне яшчэ будзе да соўгаса „Ленінскі шлях"? Ды можа-б вы дарогу туды паказалі—лесам ехаць дрэнна. Па фельчара я,—паясняў хуценька ён,—сын у мяне захварэў, пры смерці ляжыць...

Незнаёмы зацікавіў нас: конь, на якім ён сядзеў, быў з нашага калгаса. Мы адразу пазналі свайго Беланогага. Пасля гэтага мы не сумняваліся, што перад намі быў канакрад. Я ледзь заметна міргнуў Сымону.

— Ведаем, як не ведаць, — адказалі мы.

— І дарогу ведаем,—гаварыў ужо адзін Сымон,—мы яе, здаецца, толькі што мінулі... Здагадаўшыся, куды гне Сымон, я адказаў:

— Але, здаецца, мінулі.

— А мы праверым,—радасна крыкнуў Сымон і таўхануў Юрку ў той бок, дзе касілі калгаснікі.

— Ды хутчэй, а то ў дзядзькі сын памірае!

Юрка знік у кустах.

Незнаёмы ўздыхнуў.

— Такі вось, як вы бегаў, весяліўся, ды і захварэў раптам...

Ён крануў каня.

— Куды вы, дзядзька? Там балота непраходнае. Давайце назад, на дарогу...

Але не паспелі мы дайсці да дарогі, як з густой ліствы раптам бліснулі косы.

— Стой!

З-пад куста высунуўся ляснік Якуб, трымаючы сваю двухстволку.

— Злазь!—спакойна загадаў ён.

Канакрад замітусіўся. Ён хутка выхапіў руку з кішэні і, узмахнуўшы рэвальверам, стрэліў прама ў Якуба, але куля праляцела міма. Потым ён моцна рвануў каня. Аднак упартыя косы загарадзілі дарогу. Пятрок Ляўшун як маланка кінуўся на незнаёмага і ўхапіў яго за руку з рэвальверам.



Незнаёмага звязалі.

— Шпіён. Мусіць, граніцу перайшоў, — сказаў дзядзька Змітро.

* * *

Дзядзька Змітро не памыліўся: незнаёмы, якога мы спачатку палічылі за канакрада, аказаўся шпіёнам. Ён перайшоў граніцу, злавіў у табуне нашага Беланогага і верхам ехаў далей.

Шпіёна забралі выкліканыя мною пагранічнікі.



# КІМ БЫЦЬ?

*Верш В. МАЯКОЎСКАГА*
*Малюнкі А. ВОЛКАВА*

У мяне растуць гады—
будзе мне семнаццаць.
Што рабіць буду тады,
чым буду займацца?

Патрэбныя работнікі—
сталяры і плотнікі!
Зрабіць каб стол або акно,
спачатку
возьмем
бервяно,
пасля пілою звонкай
нарэжам дошчак тонкіх.
Дошкі гэтыя
вось так
заціскае
стол-варштат.
І па дошках
піла
зажужэла,
загула.
Рубанак
у рукі—
работа другая:
сукі, закарукі
рубанкам счышчаем.
Тонкія стружкі,
як жоўтыя стужкі!

А калі
трэба шар нам
круглы, прыгожы,
на станку такарным
вытачыць можам.
Рыхтуем патрошку
то скрынку, то ножку.
Зрабілі вось колькі
крэслаў і столікаў!
Сталяру—добра,
а інжынеру—
лепей.





Будаваць я-б дом пайшоў—
хай мяне навучаць.

Спачатку
нарысую
дом
такі,
які хачу я.
Самае галоўнае,
каб была нарысована
будова
роўная
і прыгожая безумоўна.
Гэта перад будзе
вам—
называецца фасад.
Гэта
кожны знае сам:
гэта—ванна,
гэта сад.
План гатовы,
і вот
на тышчу рук
сто работ.
Увысь на цэлую вярсту
рыштаванні растуць.
Дзе цяжка работка,
там
вішчыць лябёдка,
падымае бярвенні,
як тонкія паленні,
цэглу перацягне,
ніколі не прыстане.
Зверху вылажылі бляху—
і дом гатовы
разам з дахам.
Вялікі дом, паверце,
Прыгожы ён на-дзіва
і зажывуць тут дзеці
прасторна і шчасліва.
Інжынеру добра,
а доктару—
лепей.
Я-б дзяцей пайшоў лячыць—
хай мяне навучаць.

Што карысней
ёсць на свеце,
як лячыць хваробы дзецям?
Я прыеду да Пеці,
я прыеду да Лоры:
„Добры дзень, дзеці!
Хто у вас хворы?
Як ваш роцік?
Як жывоцік?"
Пагляджу
з-пад акуляр
на язык і на твар.





„Пастаўце гэты градуснік
пад паху без страху!“
І ставяць дзеці радасна
градуснік пад паху.
Вам-бы трэба,
малышок,
праглынуць парашок
і мікстуру
лыжачкай
піць так пакрышачку...
У пасцельку вам
лажыцца,
вам—
кампрэсік адзін раз.
І тады,
пакуль
жаніцца,
зажыве усё у вас“.
Дактарам добра,
а рабочым—
лепей.
Я ў рабочыя-б пайшоў —
хай мяне навучаць.

Гудок заве:
— Ўставай, народ!
І мы прыходзім на завод.

Рабочых тут, можа,
дзвесце ці болей.
Што адзін не зможа—
калектывам здолеем.
Можам
жалеза
нажніцамі рэзаць,
электрам і парам
цягаем цяжары,
молат пускаем—
рэйкі згінае.
Усюды машыны
працуюць няспынна.
Работа усякага
патрэбна адзінакава.
Я гайкі раблю,
а ты
для гайкі
робіш вінты.
І ўсё гэта,
па чарзе,
у цэх зборачны ідзе.
Балты,
залазце
у дзіркі адразу,
збірай
часці
усе разам.





Там
　　дым,
тут
　　гром.
Гу-
　　дзе
ўвесь
　　　дом.
І вось
　　　вылазіць паравоз,
каб вас
　　　　і нас
　　　　　　і нёс
　　　　　　　　і вёз.
На заводзе добра,
а ў трамваі—
　　　　　　лепей.
Я-б кандуктарам пайшоў—
хай мяне навучаць.

Для грошай сумку
　　　　　　　　　заўсягды
кандуктар адзявае
і цэлы дзень
　　　　　　туды-сюды
ён ездзіць у трамваі.
„Старыя і дзецi,
бярыце білецік!
На кожную лінію
білеты другія,
чырвоныя,
　　　　сінія
і галубыя!“
Ездзім хутка,
часта звонім,
Вас адразу
Мы абгонім.
Кандуктару добра,
а шоферу—
　　　　　лепей.
Я-б у шоферы пайшоў,
хай мяне навучаць.

Ляціць машына скорая,
І весела так мне:
вядома, добры шофер я—
ніхто не абміне.
Толькі скажыце
мне адрас дома
і я, куды трэба,
дастаўлю умомант.
Е-
　дзем,
ду-
　дзім:
„З шля-
　　　ху
сый-
　　дзі!“



Быць шоферам добра,
а лётчыкам—
лепей.
Я-б у лётчыкі пайшоў—
Хай мяне навучаць.

Наліваю ў бак бензін,
заводжу прапелер.
„Вышай хмар, матор, вязі,
Каб аж птушкі пелі“.
Баяцца не трэба
высокага неба.
Аблятаю шпарка
усякую хмарку.
Без разгавору
Пралятаю горы
Ды лячу за моры.
Не страшны
холад і мароз,
адкрыты нам
прастор.
„Вязі, матор,
каб нас давёз
да месяца
і зор“.
Лётчыку добра,
а матросу—
лепей.
Я ў матросы-б пайшоў—
хай мяне навучаць.

У мяне на шапцы стужка,
на матросцы—
якары.
Я, матрос, высокі, дужы,
Усе моры пакарыў.
Дарэмна, хвалі, скачаце,—
на зайздрасць цыркачу,
на рэях і па мачце
гуляю, як хачу.
Здавайся, вецер суровы,
здавайся, бура гнеўная,—
адкрыю
полюс
Паўднёвы,
Паўночны-ж—дык
напэўнае.

Прачытаўшы кніжку,
Памазгуй, мой хлопча,—
няма працы лішняй,
выбірай, што хочаш!

**Пераклад А. Я.**





# Дзед і ўнук

*Апавяданне З. БЯДУЛІ*

*Малюнкі К. ГЕДДЫ*

**(З МІНУЛАГА)**

Душная, цёмная ноч.

Уся Міронава сям'я спіць у пуні на свежым сене. Не спіцца толькі двум: старому дзеду Мірону і васьмігадоваму ўнуку яго Андрэю. Дзед абдумвае цяпер, як ухітрыцца найцішэй выйсці з пуні, каб нявестка не пачула, ды напісаць ліст да сына ў Амерыку. Андрэйка трымае ў руках лазовую свісцёлку, якую днём скруціў яму дзед, і ціхутка свісціць. Усе смачна спяць пасля дзённай працы на сенакосе, як пасля кірмашу ўсёроўна. Дзед аглядаецца па баках ды асцярожна падымаецца з свайго месца.

— Андрэйка!—шэпча дзед і тузае яго ад нецярплівасці. Андрэйка ўжо ведаў, што дзед заве яго ў хату ліст пісаць, і, ускочыўшы на ногі, ціха і спрытна падбег да дзеда. Дзед узяў яго за руку і палажыў сабе палец на губу з таемным выглядам; Андрэйка добра разумеў, што гэта значыць: „ані-мур-мур"—трэба маўчаць, як сала зласаваўшы.

Гэткім парадкам дабраліся яны да варот пуні. Дзед адчыніў іх памалу і так спрытна, што яны не завялі сваёй, як заўсёды, скрыпучай музыкі, і два змоўшчыкі вышлі на двор.

Тут зноў калацілася сэрца дзеда—усё перашкоды розныя. То Жучка забурчыць: могуць пачуць у пуні; то гэты падшывалец, Андрэйка, не можа вытрымаць—прабірае яго спакуса так свіснуць, каб аж рэха пакацілася з усіх бакоў. Дзед адабраў у яго свісцёлку і паклаў сабе за пазуху... Азіраючыся, яны ўвайшлі ў хату.

— Дзядок, свісцёлку дай!—не вытрымаў Андрэйка.

— Толькі, Андрэйка, не моцна, бо ўсіх сабак разбудзіш,—прасіўся дзед і падаў яму свісцёлку. Андрэйка пачаў у пацёмках скакаць і свістаць.

Дзед запаліў лучыну, выняў з-пад абразоў у куце аркуш паперы, што дастаў у мястэчку за венікі.

— Ну, цяпер, каток ты мой,—сказаў дзед да Андрэйкі,—аддасі мне свісцёлку на той час, пакуль ліст напішаш, а пасля я табе аддам.

Андрэйка нічога на гэта не адказаў, толькі з нейкай смагай свіснуў апошні раз надта шчыра, працягла; выцер старанна свісцёлку аб свае штонікі і аддаў дзеду. Дзед дастаў з закуранай трамы чарніла, ручку з пяром і паклаў на стол. Масціўся, масціўся Андрэйка на тапчане каля стала і ніяк не мог сесці так, каб зручна было пісаць. Як на тое ліха тапчан быў нізкі, стол быў высокі, так што, сеўшы пісаць, Андрэйка ледзь носам даставаў да стала.

— Хіба носам пісаць!—пажартаваў Андрэйка. Дзед нічога не адказаў, утыркнуў лучыну ў чорную шчыліну ля акна, вышаў сур'ёзны ў сенцы, прывалок начоўкі і паклаў на тапчан, каб Андрэйку вышэй было сядзець. І то было нізка—Андрэйка даставаў да стала толькі барадой.

— Хіба барадою пісаць!—пажартаваў зноў Андрэйка. Дзед нічога і цяпер не сказаў і яшчэ болей сур'ёзна падышоў да прыпечка, выняў з-пад чалеснікаў абсмаленае палена і паклаў на начоўкі. Андрэй сеў на палена.

— Цяпер, дзядок, будзе добра!—казаў ён, папраўляючы рукамі палена, замахаў пад сталом сваімі закарэлымі чорнымі ножкамі і ўпёрся каленамі ў стол.

Андрэйка ўсунуў ручку ў чарніла і, забыўшыся яе атрэсці, перш-на-перш абліў паперу чарнілам, зрабіўшы чорную пляму велічынёю з медны пятак. У школе гэта называюць „булка". Настаўнік за гэтыя булкі моцна цягне за вуха, нібы пугу віўшы, а вучань крычыць: „а-а-ай!"

Андрэйка высунуў язык, засоп і пачаў выводзіць літары. Ён іх хацеў вельмі прыгожымі пісаць, а яны выходзілі ў яго крывыя, нязграбныя.



*Дзед даў Андрэю свісцёлку*

— Прачытай, што ты там ужо накрэмзаў,—не вытерпеў дзед,—паглядзім, з якога ты поля ягадка.

Андрэйка пачаў чытаць па складах. Дзеду спадабалася.

— Дай, дзядок, свісцёлку,—папрасіў Андрэйка.

— Не, не дам цяпер, не лезь ты смалой!

— Да-а-ай!—не пераставаў прасіць Андрэйка.

— Не, не дам!—заматаў дзед галавой.

— Хоць разок свісну!

— Адзін раз кажаш?—сумняваўся дзед,—ой глядзі, каб гэты раз не папсуў увесь сказ!

— Кажу-ж табе разок толькі!—заёрзаў Андрэйка і зрабіў шчырыя вочы.

Дзед даў Андрэю свісцёлку, і хлопец упіўся ў яе, як непрытомны. Свіснуў раз—не вытрымаў, свіснуў яшчэ раз. Забрахала Жучка на двары.

— Ах, каб ты скіс,—вылаяўся дзед.



*Андрэйка зноў задрамаў. І сняцца хлопчыку абаранкі, што дзед прынёс яму*

Андрэйка спалохаўся і аддаў дзеду свісцёлку.

— Ага,—прабіраў яго дзед,—я-ж казаў, што цяпер не можна. Яшчэ паспееш з козамі на торг!—І схаваў свісцёлку.

Дзед паправіў лучыну, падрыхтаваў другую і задумаўся. Андрэйка тым часам разглядаў цені на закураных сценах. Дзед зрабіўся вялікім-вялікім, аж на поўхаты. У самога Андрэйкі была на сцяне галава з цэбар. Гэта яго цешыла, і ён пачаў стрыгчы пальцамі, нібы нажніцамі, а на сцяне вырасла казліная галава.

— Каза, каза, дай малака! М-м-э-э-э!—замэкаў Андрэйка.

Тут дзед устрапянуўся ад сваіх думак. А думаў ён аб усіх крыўдах, што нявестка рабіла яму за апошнія тры гады: з таго часу, калі яго сын, Адам, выехаў у Амерыку. Гоніць, як сабаку, з хаты... есці не дае... б'е часам...

— Пішы, каласок ты мой, пішы!—кажа ён да Андрэйкі.

„Сынок ты мой родненькі, ці я табе не бацька? Ці я не будаваў гэту хату? Ці я не гаспадарыў тут? Яшчэ во' якія мазалі на руках маіх...“ Дзед падымае рукі ўгару, нібы каму паказвае мазалі свае. Голас яго дрыжыць і слабее. Андрэйка прыхіліўся да стала і цяжка дыхае, выводзячы буйныя нязграбныя літары.

Дзед папраўляе лучыну і далей гаворыць: „Адам, сынок ты мой! скажы, за што такую старасць паганую маю? За што такая кара? Як гэта кажуць: б'юць і плакаць не даюць...“

— Пачакай!—крычыць Андрэйка,—я яшчэ там не скончыў пісаць тое!..

— А што ты там, каласок ты мой, напісаў—запытаўся дзед:—дай паслухаем і патыліцу пачухаем.

— „Ці я табе не бацька“... чытае памалу Андрэйка.—Як далей, дзядок, ты казаў?

Але дзед ужо забыўся, што раней дыктаваў, а тут яму хочацца выгаварыцца, выліць тое, што накіпела на душы.

— Ага, ага!—пачынае ён далей. А ўчора нявестка так піхнула мяне ад стала, ажно старыя костачкі мае чуць не рассыпаліся. Яна называла мяне гультаём... як гэта кажуць, быў конь—ды з'ездзіўся... А тапчан гэты я майстраваў, а стол гэты хто рабіў, калі не я?..

Дзед доўга кашляў.

З яго мутных вачэй пасыпаліся слёзы, як боб...

Так прайшло колькі хвілін.

Дзед закурыў люльку, паправіў лучыну і прысеў.

— Дык кажы, дзядок, што пісаць?—пытаўся Андрэйка і пазяхаў.

— Пішы, каток, пішы!—строга казаў дзед. „Буланка здохла, кароўка чуць ногі валочыць, а сена пагніло.“

Дзед змоўк і трос сваёй лысай, белай галавой. Раптам матылёк аднекуль з'явіўся, і пачаў кружыцца каля агню. Андрэйка заглядзеўся на яго. Паклаў ручку, і давай лавіць. Злавіў, але матылёк спрытна выслізнуў з рукі, пакінуўшы на пальцах слізкі пылок. Матылёк пачаў зноў кружыцца над агнём. Андрэй сачыў за ім доўга, пакуль павекі алавянымі зрабіліся. Ён заплюшчыў вочы, дзед зрабіўся маленькім, усё злілося—сплылося разам і... ён заснуў, зрабіўшы другую яшчэ большую, чорную „булку“ на паперы.



Доўга думаў дзед. Але каб хто спытаўся ў яго, аб чым ён думае, ён-бы не ведаў, што і адказаць.

— Пішы, Андрэйка, пішы!

Андрэйка не чуў. Кот вылез з-пад прыпечка. Нясмела і ціха падышоў да стала, скокнуў на тапчан і, бліснуўшы зялёнымі вачыма, прытуліўся да Андрэйкі.

— Забыўся ты на мяне, сынок?—крыўдна махаў дзед левай рукой.

— Ніколі капейкі не прышлеш, а яна мне зараз так патрэбна... Ці ты мне не сын? Ці я не бацька твой?“ Пішы, Андрэйка, пішы! Ніхто старога не шкадуе: і ўлетку ў кажусе цягаюся, бо мне холадна, а кажух ужо разлез на маіх плячах.

Але тут дзед раптам змоўк, бо лучына згасла.

— Андрэй! Андрэй! Куды запалкі паклаў?

— Га?—усхапіўся Андрэйка,—абаранкаў купіш мне на капейку?

— Куплю, куплю, каласок мой, а як-жа гэта кажуць: узяўшыся за гуж—не кажы, што не дуж!

Андрэйка зноў задрамаў. І сняцца хлопчыку абаранкі, што дзед прынёс яму. Андрэйка начапіў іх на вяровачку і пабег па вёсцы, спяваючы:

— Гоп!-гоп! І-га-га! На буланцы ездзіць Янка, паўтараста рублёў санкі, пяцьдзесят рублёў дуга, а кабылка поўрубля! — Гоп! гоп, І-га-га!

Не бачыць дзед, што Андрэйка даўно ўжо спіць.



# Козлік

*Казка Я. ГЕРАСІМОВІЧА*

*Малюнкі М. МАЛЕВІЧА*

Быў у бабулькі,
Жыў у Ганулькі
Козлік рагаты.
Крывыя рожкі,
Босыя ножкі,
А сам гарбаты.

Абула бабулька,
Абула Ганулька
Козліка ў боты.
Блішчаць галоўкі,
Звіняць падкоўкі
Спрытнай работы.

Пашыла бабулька,
Пашыла Ганулька
Козліку світку,
Ды ўсім сказала,
Што навязала
Яго за нітку.

Аж выбег коцік
Ды сеў на плоцік,
Лапачку ўгору.
Козлік спужаўся,
За рожкі ўзяўся
Ды зразу дзёру.

Парваў ён нітку,
Ды скінуў світку,
Пагубляў боты.
Вось было бабцы
Клопату ў хатцы,
Гора, бядоты!

Што-ж ёй рабіці,
Што-ж ёй чыніці,
Хто-ж ёй паможа?
Яго-ж сабака
Ці ваўкалака
Загрызці можа.

Кліча бабулька,
Кліча Ганулька
Унучку Дароту,
Каб пагукала,
Каб пашукала
Казла ля плоту.

Унучка шукала,
Усё перабрала,
Аж не відаць.
Шкада бабулькі,
Шкада Ганулькі,
Што-ж ёй сказаць?





Прышла, гаворыць,
Слёзачкі роніць,
Твар зажурыўся:
—Хадзіла, шукала,
Ды годзе сказала,
Можа ўтапіўся?

Паслала бабулька,
Паслала Ганулька,
Сучачку Юсту,
Ды абяцала
Дзялянку сала
І хлеба лусту.

Сучачка нюхала,
Бегала, слухала,
Стала шукаць,
Ды не патрапіла,
На след не трапіла
Казлоў, відаць.

Кажа бабулька,
Кажа Ганулька
Свінцы-кулінцы:
— Што-ж гэта будзе?
Шукай ты, дзюдзя,
Хоць на гасцінцы!

Шукае свінка,
Свінка-кулінка,
Не можа знайсці.
Убілася ў нерат,
Ні ўзад, ні ўперад
Ёй не прайсці.

Пайшла бабулька,
Пайшла Ганулька
Шукаць сама.

Шмат абхадзіла
Нагу зверадзіла,—
Нідзе няма.

Ідзе бабулька,
Ідзе Ганулька
Назад, ды плача,
А воўк кудлаты,
Стары, шчарбаты,
Насустрач скача.

Пытае бабулька,
Пытае Ганулька
Ваўка кудлатага,
Каб растлумачыў,
Можа дзе бачыў,
Казла рагатага.

Воўк засмяяўся,
Разрагатаўся
Ды кажа так:
— Позна шукаеш,
Дарма пытаеш—
Знік небарак.

Са мною спаткаўся,
На зубы папаўся,
Пад'еў я трошкі.
Табе-ж пакінуў,
За плот закінуў
Рожкі ды ножкі.

Не плач, бабулька,
Не плач, Ганулька,
З гэтага ўбытку,
А другім разам
Ты не навязвай
Казла за нітку.





# У ГАСЦЯХ У ДАШКАЛЯТ

Адразу-ж пасля снедання дашкольнікі пайшлі гуляць на веранду. Усе заняліся сваімі справамі. Адны скачуць праз скакалкі, другія гуляюць з мячыкамі, некаторыя дзяўчаткі важна ходзяць, трымаючы на руках прыгожыя лялькі.

Коля з Борыкам бегаюць з званочкамі.

— Едзем, едзем, сцеражыся!—крычаць яны і звоняць над вухам кожнага, хто знаходзіцца блізка каля іх.

— Люба, уцякай! Бачыш едуць...

Люба пабегла, неяк спатыкнулася і ўпала. Рэбяты кінуліся дапамагчы ёй устаць і тут-жа заўважылі нешта незвычайнае. Адна нага ў яе тонкая, а другая шмат таўсцейшая, нібы апухла.

— Чаму гэта так? У цябе-ж былі абедзве нагі роўныя,—дзівяцца рэбяты.

Дзяўчынка пачырванела. Дашкаляты акружылі яе. Усе хацелі даведацца, што сталася з яе нагой. Кіраўніца, Галіна Якаўлеўна, падышла да дзяўчынкі.

— Ну, што з табой, пакажы! Яна паслушна апусціла панчошку і—на падлогу пасыпалася шмат розных паперак ад цукерак. Дзяўчынка доўгі час збірала іх і старанна хавала ад дзяцей. На гэты раз схаваць не ўдалося.

Увечары рэбяты праводзілі час у прасторным пакоі. На маленькіх сталах і стульчыках ляжалі будаўнічыя матэрыялы: кубікі, пласцінкі і інш. Дашкаляты падзяліліся на групкі. Падрыхтавалі ўсё патрэбнае, і работа закіпела.

Вова і Патапка майструюць папанінскую ільдзіну.

— Прынясі яшчэ дзесяць пласцінак, трэба з правага боку пакласці. Так. Ну, глядзі, ледзяное поле ўжо гатова. А зараз палатку раскінем. Толькі як яе зрабіць?—задумаліся рэбяты.

— Хадзем паглядзім, як Таня зрабіла.

Таніной работай яны асталіся незадаволенымі.

У яе атрымалася не палатка, а скрыня. Мы пабудуем лепш.

Будаўнікі ўзялі дзве пласцінкі, прымацавалі іх краямі адну да другой, потым яшчэ некалькі пласцінак паклалі, каб мацней было. Цяпер зусім падобна на палатку.

Хутка на ільдзіне з'явіўся чырвоны сцяг, белыя гумавыя мядзведзі... Вова нават матрошак пасадзіў.

— Што тут трэба тваім лялькам?—узлаваўся Патапка.

— Не чапай, гэта яны замест папанінцаў.

— Мы лепш самі будзем замест папанінцаў.

Вова згадзіўся з гэтым і аддаў матрошак дзяўчаткам.

— Пачакай, трэба радыё ўстанавіць.

Радыё цяжэй зрабіць. Але ўсё-ж зрабілі.

— Ну, Вовка, ты—Крэнкель. Ідзі на радыёстанцыю і перадай прывітанне ўсім піонерам і акцябратам.

— Ёсць, таварыш начальнік!

Зарадваўся Вовка. Ён прысеў каля сцяны, паставіў перад сабой стул, а на стуле расставіў катушкі з ніткамі і, асцярожна стукаючы алоўкам па катушках, голасна закрычаў:

— Слухайце, слухайце! Гаворыць станцыя „Паўночны полюс". У нас усё ў парадку. Папанін і ўся чацвёрка перадаюць прывітанне ўсім піонерам і акцябратам!

Даша, нахіліўшыся над сталом, канчае сваю работу. Яна будуе крэмлёўскую сцяну.

Аркадзік і Толік пабудавалі граніцу. З правага боку—застава. З кубікаў і пласцінак зроблены прыгожы дом.

— Толік, давай пагранічніка тут паставім,—прапанаваў Аркадзік. Яны доўга ставілі ляльку, але ніяк гэта ім не ўдавалася. Лялька падала.

Нарэшце прыдумалі. Дасталі лялечны стульчык і паставілі на ім свайго пагранічніка, а каля яго гумавага сабаку. Потым таварышы ўзялі свае драўляныя вінтоўкі і самі сталі сцерагчы граніцу.

Надыходзіў час вячэры. Дашкаляты складалі цацкі.

Грыша Вялічка схапіў свой стульчык, узняў яго высока над галавою і сказаў:

— Ведаеце, рэбяты, я буду лётчык, буду лётаць на самалёце, а музыка будзе граць...

На гэтым мы развіталіся з вясёлымі і слаўнымі дашкалятамі Віцебскага дашкольнага дзетдома № 1.

**О. Мачарадзе.**

**Г. Віцебск.**



# Калыханка

*Верш* ***АНДРЭЯ АЛЕКСАНДРОВІЧА***

*Малюнкі* ***К. ГЕДДЫ***



Засні, мой саколік,
Мой любы, засні.
Мігцяцца над полем
Ад зорак агні.

Плывуць к малалеткам
На крыллях вясны
Сатканыя з кветак
Салодкія сны.

А раненька-рана
Рассеецца змрок,
Вясёлым, румяным
Ты ўстанеш, сынок.

Праменні на сцежках
Асушаць расу,
Вавёркі арэшкаў
Табе прынясуць.

Закрый свае вочкі.
Пара засынаць,
Байцы будуць ночкай
Твой сон вартаваць.

Бо прагне напасці
Варожая раць,
Каб нашае шчасце
Ад нас адабраць.

А вырасцеш, хлопчык
Чарнявенькі мой,
І ты будзеш ночкай
Ахоўваць спакой.

Ты будзеш на моры
Лінкоры вадзіць,
І ў небе дазорам,
Як сокал кружыць.

Дык спі, мой саколік!
А зноў раніцой
Ты пойдзеш у поле
Гуляць з дзетварой.

Вам сонейка свеціць,
Вы наша любоў—
Шчаслівыя дзеці
Шчаслівых бацькоў!



# РЫБЫ, ЯКІЯ СТРАЛЯЮЦЬ

Сапраўды, дзіўная рэч: нікчэмная рыбінка, не большая за селядца, умее страляць. І не для забавы страляе яна, а палюе на жывёлу, як мае быць, жывіцца з гэтага палявання.

Багатая раслиннасць у тых краях, дзе знаходзіцца востраў Ява. Усе берагі густа параслі і дрэвамі, і хмызняком, і травой. Усюды звешваецца над вадой якая-небудзь зялёная галінка, а на ёй пэўна сядзіць якая-небудзь муха. Сядзіць, адпачывае, распраўляе свае крылцы і зусім не думае, што ёй пагражае небяспека, ды не ад птушкі якой, а ад рыбы.

Рыбка гэтая тымчасам пільна сочыць за мухай, падплывае як мага бліжэй, высоўвае з вады галаву, і—чык!—падстрэленая муха ляціць у ваду. А гэтага толькі і трэба было паляўніку.

Пры гэтым бадай не бывае выпадка, каб „куля“ не трапіла. І спраўляюцца яны з гэтым куды хутчэй, як мы тут апісалі. Чарадою носяцца яны ў вадзе, гуляюць, то імчацца кучай, то рассыпаюцца ва ўсе бакі, даганяючы адна адну, вяселяцца, забаўляюцца, здаецца, нікога і нічога не бачаць, апрача сваіх гульняў. І вось сярод такіх забаў то адна, то другая ўхітраюцца заўважыць здабычу, высунуцца з вады, стрэльнуць, праглынуць муху і ляцець далей, нібы нічога з ёю і не было.

Чым-жа яны страляюць? Ну, вядома, тым, чаго маюць досыць—вадой, кроплямі вады. Накшталт таго, як у нас дзеці часам набяруць у рот вады і пырскаюцца. Толькі рыбкі гэта робяць куды спрытней; дзеля таго і рот у іх нібы трубачка.

Рыбакі не ловяць гэтых рыб, бо яны нясмачныя. Але мясцовыя жыхары лічаць, што калі іх спаліць ці, высушыўшы, сцерці ў парашок, то гэтыя попел і парашок служаць вельмі добрым лякарствам ад многіх хвароб.

Больш за ўсё ловяць гэтых рыбак для акварыумаў, для таго, каб трымаць іх у сябе ў хаце. У акварыум ставяць густую галінку так, каб яна высоўвалася на поўметра з вады, а часам і больш. На гэтую галінку лёганька прымацоўваюць розных насякомых. Калі рыбак у акварыуме многа, пачынаецца заўзятая „бамбардыроўка“: навыперадкі страляюць, хапаюць здабычу, зноў страляюць.

Такі акварыум кожны з нас хацеў-бы паглядзець, ды шкада, што нашы рыбы яшчэ не навучыліся страляць.

Я. М.

---

## МАЛЮНКІ З ЗАПАЛАК



*З запалак можна скласці цікавыя малюнкі. Паспрабуйце зрабіць такія і іншыя малюнкі самі.*

**ІСКРЫ ІЛЬІЧА**

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ.
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА“

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ БАКЦЯРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

МАЙ 1933 г. № 5

ЦАНА 30 кап.

# ГУЛЬНІ І ЗАБАВЫ



Станьце ў круг ды шырэй. Цяпер прысядзьце, а ў сярэдзіне круга няхай стане адзін вадзячы. Мы будзем перакочваць мяч адзін другому, а вадзячы стараецца перахапіць яго. Калі вадзячы перахопіць мяч, ён ідзе ў круг, а той, у каго перахоплены мяч, становіцца пасярэдзіне. Мяч кідаць не можна, яго трэба толькі перакочваць па зямлі.

## ГУЛЬНІ З МЯЧАМ

Станьце ў круг на шаг адзін ад другога. Ззаду круга будзе бегаць вадзячы, а мы ўсе хутка перадаваць будзем мяч адзін другому. Мяч можна перадаваць абодвым суседам—справа і злева. Але сыходзіць з месца не можна. Вадзячы намагаецца ззаду дастаць або дакрануцца да мяча.

Калі хто ўпусціць мяч, той будзе вадзячым, а вадзячы становіцца на яго месца.







## ЦЕСНЫ КРУЖОК

Палажы на аркуш паперы грыўню і абвядзі алоўкам. Цяпер акуратна выраж намалёваны кружок. У паперы будзе дзірка, скрозь якую праходзіць грыўня.

Пятак куды больш за грыўню, але яго таксама можна прапусціць праз гэты маленькі кружок. Як гэта зрабіць?

Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ | Афармленне Г. ІЗМАЙЛАВА | Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ

Друкарня імя Сталіна. 20.000 экз. Зак. № 3436. Уп. Галоўлітбела № 4350.